


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 30(40) • 11—17 ВЕРАСНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

КАРЭННЫЯ ЗМЕНЫ Ў НАША ЖЫЦЦЕ ЎНОСЯЦЬ РАШЭННІ, ПРЫНЯТЫЯ НЕЧАРГОВЫМ ПЯТЫМ З'ЕЗДАМ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ КРАІНЫ. У ІХ РАСПРАЦОЎЦЫ АКТЫЎНА ЎДЗЕЛЬНІЧАЛА І БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ. А ШТО КАНКРЭТНА ДАДУЦЬ ГЭТЫЯ РАШЭННІ НАШАМУ НАРОДУ? АДКАЗУ НА ТАКОЕ ПЫТАННЕ Ў ДРУКУ ПАКУЛЬ НЕ ДАДЗЕНА.

*У СУВЯЗІ з рашэннямі, прынятымі на нечарговым пятым з'ездзе народных дэпутатаў краіны, ад якіх у многім залежыць палітычная будучыня Беларусі, склікаецца нечарговая сесія беларускага парламента ў Мінску.*

НАД БУДЫНКАМ Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў узняўся бел-чырвона-белы сцяг. Зроблена гэта па рашэнню нядаўняй сесіі гарсавета, якая, акрамя таго, палічыла неабходным вярнуць гораду яго старое найменне — Менск — і пацвердзіць герб, нададзены яму 400 гадоў назад.

*АФІЦЫЙНА зарэгістраваны Саюз прадпрымальнікаў Беларусі. Яго прадстаўнікі ўвайшлі ў савет па прадпрымальніцтву пры Саўміне рэспублікі.*

СТВОРАНЫ Славянскі працоўны саюз Беларусі. Яго мэта, як заявіў старшыня аргкамітэта Ф. Якацук,— абарона інтарэсаў працоўнага народа.

ІМПЕРЫЯЛІЗМ у новай дэмакратычнай форме — адна з небяспек, што пагражаюць цяпер рэспублікам. Звязана гэта з імперскімі паводзінамі Расіі. Як аб'явілі на прэс-канферэнцыі лідэры апазіцыі беларускага парламента, каб дабіцца поўнай незалежнасці, нашай рэспубліцы патрэбна абараняць свае правы.

«УПЭЎНЕНЫ, ШТО Ў БССР УСЯГО ЗА 20 МЕСЯЦАЎ МОЖНА ЎЗНЯЦЬ ЭКАНОМІКУ ДА ЎЗРОЎНЮ ФРАНЦЫІ», — ТАК ЛІЧЫЦЬ АДЗІН З ЛІДЭРАЎ РАБОЧАГА РУХУ Ў БЕЛАРУСІ АРШАНЕЦ МІКАЛАЙ РАЗУМАЎ. ЗРАБІЦЬ ГЭТА ЁН ЗМОГ БЫ, КАЛІ Б ЯГО АБРАЛІ ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ. АКРАМЯ ТАГО, ЁН ВЫКАЗАЎ ГАТОЎНАСЦЬ СТАЦЬ БЕЛАРУСКІМ ЛЕХАМ ВАЛЕНСАМ.

РЭСПУБЛІКА НЕ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД ІДЭІ ПРАД'ЯВІЦЬ ІСК У МІЖНАРОДНЫ СУД У ГААЗЕ АБ КАМПЕНСАЦЫІ ШКОДЫ, ЯКУЮ ЁЙ НАНЕСЛА ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ КАТАСТРОФА. АБ ГЭТЫМ ЗАЯВІЎ МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ ПЁТР КРАЎЧАНКА. ЯГО СЛОВЫ ВЫКЛІКАНЫ ТЫМ, ШТО САЮЗ ПОЎНАСЦЮ ІГНАРУЕ ЎСЕ НАШЫ ПРАБЛЕМЫ.

## Пакланіцца таленту Максіма

*1 верасня па ініцыятыве Міністэрства культуры ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна прайшло паэтычнае свята, прысвечанае стагоддзю Максіма Багдановіча. Пакланіцца яго таленту прыехалі сотні гасцей. Пасля наведання царквы ў Красным, пад бел-чырвона-белымі сцягамі людзі прыйшлі да Максімавай крыніцы. Перад прысутнымі выступілі пісьменнікі В. Зуёнак, А. Вярцінскі, М. Аўрамчык, А. Мальдзіс, П. Макаль, А. Лойка, І. Чыгрынаў, У. Паўлаў, С. Грахоўскі, В. Іпатава, П. Бітэль, В. Жуковіч, Н. Мацяш, Л. Рублеўская і іншыя. Многія выступленні зводзіліся да адной думкі, што наспеў час вярнуць прах паэта з далёкай і чужой Ялты ў родную зямлю.*

*На свяце паэзіі прысутнічаў госць з Літвы Антон Луцкевіч, які сказаў, што не трэба забывацца пра вялікае значэнне Вільні ў творчасці Максіма Багдановіча. Луцкевіч заклікаў браць прыклад з незалежнай Літвы і да канца змагацца за поўную незалежнасць Беларусі.*

*Напрыканцы свята быў асвечаны крыж і ў Красным у царкве адбылася вячэрняя малітва, прысвечаная памяці Максіма Багдановіча. Шкада, што святар вёў службу на рускай мове, а не на той, на якой тварыў наш Максім.*

*В. Ш.*

Як жывуць нашы землякі за акіянам... Стар. 2.

*Ці вернецца інтэлектуальнае багацце?* Стар. 2.

*Словы-пачвары з канчаткам «-цыя».* Стар. 4.




## МІЛАСЭРНАСЦЬ ДЗЕЯННЕМ

Чарговая партыя дабрачыннага грузу дастаўлена з Германіі ў Гомель. Арганізатары акцыі — святары Евангельскай лютэранскай царквы ў Гановеры. Дзіцячай абласной бальніцы, лячэбным установам пацярпелых раёнаў яны перадалі аднаразовыя шпрыцы, крапельніцы, перавязачныя матэрыялы, вітаміны і дзіцячае харчаванне.

Старшыня Евангельскай лютэранскай царквы ў Гановеры Хайнер Кох (справа) прывёз партыю грузу з Ніжняй Саксоніі.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

(БЕЛТА).

*Пошта рэдактара*

## Пасланне другому зласліўцу

**У сувязі з тым, што дасланы ў рэдакцыю ліст звернуты непасрэдна да рэдактара і аўтар спрабуе ацаніць ягоную пазіцыю ў часе ваенна-бальшавіцкага путчу, няхай усё будзе вядома чытачам. Даецца без паправак:**

*«Глыбоканепаважаны Э. Ялугін!*

*Экстрэмальныя ўмовы пацвердзілі, што ты баязлівец і прыстасаванец! Больш таго — палітычны банкрут! І ты, і тваё ТБМ, якое не выказала ніякіх адносін да хунты.*

*Газета «Н. с.» № 27 выйшла пасля перавароту, і ў ёй не знайшлося месца для асуджэння хунты. У Поступе тыдня асцярожненька («как бы чего не вышло!!») сказана, што «урад незалежнай рэспублікі Беларусі захоўвае маўчанне».*

*А дзе* тваё *слова?*

*Калі не хапала часу напісаць артыкул, ты мог сказаць праз газету два словы: «Далоў хунту!» і ўсяго толькі. І твае чытачы зразумелі б цябе. Але ты прамаўчаў. Гнюсна, подла прамаўчаў у № 27(37) — нумары твайго палітычнага сапраўднага твару, нумары ганьбы!*

*Ты даеш Дамашэвіча.*

*У падмёткі Расіі не згадзіцца прыстасаванец Дамашэвіч,* **член рэдкалегіі.** *Расія перамагла і выйграла, а ты будзеш спажываць вынікі яе перамогі.*

*Вучыся ў «Свабоды» — сапраўднай беларускай газеты, подлы прыстасаванец!*

*Табе ўжо не адмыцца!*

*Падавай лепш у адстаўку, разам з Дземянцеем, якога ты крытыкаваў!*

*Наша сям'я тваю газету больш выпісваць не будзе!!!*

**М. МАЛАШКА.**
**г. Мінск».**

ПОДПІС разборлівы, хатні адрас не ўказаны. Ананімка? Не бяда. Я адказваў крытыкам-ананімам справа, цяпер настала пара для незнаёмага таварыша з іншай (ва ўсякім разе на першы погляд) пазіцыяй. Ліст гэты захаваю ў сваім архіве як экспанат нашай незвычайнай эпохі. Магчыма, праз пэўны час ён зацікавіць сацыяпсіхолагаў.

Перш-наперш некалькі слоў пра Таварыства беларускай мовы. Ці выказала яно свае адносіны да хунты? Успомнім: дзякуючы мужнасці журналістаў Беларускага радыё, яшчэ 20 жніўня народныя дэпутаты рэспублікі і члены Цэнтральнай рады ТБМ Алег Трусаў і Яўген Цумараў (ён жа ўзначальвае і Сакратарыят ТБМ) змаглі на ўсю Беларусь абвясціць: ГКЧП — стварэнне антыканстытуцыйнае, незаконнае, і ў гэтых абставінах трэба падтрымліваць Прэзідэнта РСФСР Барыса Ельцына і тэрмінова дабівацца склікання нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР з тым, каб беларускі парламент даў прававую ацэнку дзеянняў кампартыйных чыноўнікаў Цэнтра. Астатнія члены Рады ТБМ, ва ўсякім разе многія, таксама не сядзелі склаўшы рукі, а былі сярод тых, хто арганізоўваў супраціўленне перавароту. Так што ў выпадку перамогі бальшавіцкай хунты ТБМ чакаў непазбежны роспуск, а яго кіраўніцтва — арышт і ГУЛАГ. У гэтым тады ніхто не сумняваўся. Бо сюды трэба дадаць і тое, чаго спадар М. Малашка можа і не ведаць: у свой час дзякуючы Таварыству беларускай мовы ў парламент рэспублікі прайшло 17 народных дэпутатаў, пераважная большасць якіх саставіла канструктыўнае ядро апазіцыі, у тым ліку лідэр БНФ Зянон Пазьняк.

А цяпер крыху гісторыі. Некалі адзін ваяўнічы старажытнарускі князь, які спаў, паклаўшы галаву на сядло, накрываўся конскай папонаю, а з харчу аддаваў перавагу сырому мясу, збіраючыся ў ваенны паход, слаў ганца, каб паведаміць ворагу: «Іду на Вы!» Ды тое было даўно, не дзіва, калі Вы, спадар М. Малашка, гэтага маглі не ведаць. Ці лічыць: «Падумаеш, нейкі там дзікун нават да ворага звяртаўся на Вы. А я паходжання калгасна-пралетарскага, абыйдуся без феадальнай шляхетнасці, калі гэта не мой начальнік». Разумею Вас, спадар М. Малашка. Бальшавіцкае выхаванне нам яшчэ доўга будзе адрыгацца. У некаторых жа яно стала іхняй існасцю, і не ўсе разумеюць, як неабходна хутчэй ад гэтага адскрабацца.

Што да Вашага папроку адносна маёй пазіцыі і «сапраўднага твару», то цяпер, калі страшэнная бяда путчу адступіла, я і сам думаю: магчыма, трэба было дзейнічаць неяк іначай, больш рашуча. Даць, як Вы лічыце, лозунг «Далоў хунту!»? Паспрабаваць зрабіць гэта нават у чужой друкарні, дзе, канечне ж, пільнае вока «вооруженного отряда партии нового типа» ўжо «бдило»? Дзе да «Нашага слова» і раней ставіліся насцярожана і непрыязна? Дзе невераготным чынам (і заўсёды невядома кім!) затрымліваліся на некалькі дзён выпускі газеты з матэрыяламі пра знакаміты рэферэндум «з сацыялістычным выбарам», пра красавіцкія выступленні рабочых супроць паўлаўшчыны і зусім ужо нядаўна — пра арышт супрацоў-

*(Заканчэнне на 2-й стар.).*

## Беларусы з Англіі

22 жніўня рэдакцыю «Нашага слова» наведалі Алесь Гатковіч і Пятро Чайкоўскі — беларусы, якія жывуць у Лондане. Яны пераехалі туды ў 1948 годзе з Нямеччыны. Доўгі час іх не пакідала жаданне вярнуцца ў родную Беларусь. Як сказаў Алесь Гатковіч, ён паехаў менавіта ў Лондан, бо адтуль было бліжэй да Бацькаўшчыны. Ён выдаваў у 1948—1950 гг. свой часопіс «Даматы» для беларускай моладзі. Тут змяшчаў свае вершы, фельетоны, рэфераты. Друкаваўся таксама ў часопісах «Званіца» і «Барацьба». Цяпер у Лондане выдаецца беларускамоўны часопіс «Голас часу», на старонках якога чытач можа сустрэцца з Алесем Гатковічам.

Пятро Чайкоўскі прыняў удзел у 26 поўных марафонах і некалькіх сотнях паўмарафонаў. Гэтым ён займаецца ўжо дзесяць гадоў. І самае цікавае тое, што ўсе грошы, якія ён зарабляе, удзельнічаючы ў марафонах, пералічваюцца ім на рахункі беларускіх дзіцячых дамоў, лякарняў. А калі Пятро даведаўся пра чарнобыльскую бяду на Бацькаўшчыне, то немалыя сродкі выдзеліў на дапамогу людзям, якія пацярпелі ў выніку жахлівай катастрофы. Пятро Чайкоўскі пералічыў на дабрачынныя акцыі некалькі тысяч фунтаў стэрлінгаў.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Пошта рэдактара*

## Пасланне другому зласліўцу

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).*

ніка газеты «Навіны» БНФ Валерыя Сядова? Ну, а калі абвясціць: да ўлады ў імперскім Цэнтры нейкім пакуль цьмяным спосабам прыйшоў В. Паўлаў? Лічыце, людзі ўжо забыліся, што гэта за птах? Даравалі, як ён са сваёй камандаю абрабаваў народ?

А калі дадаць: з Паўлавым — маршал Язаў? Па-вашаму, дык народ не ведае, пад чыім кіраўніцтвам армія імкліва ператваралася ў зграю карнікаў і марадзёраў, у той час як яе маршалы ў залатых палацах навыперадкі дзялілі не толькі армейскія халадзільнікі і імпартныя гарнітуры, а і салдацкія парцянкі? Лічыце, добрыя людзі запляскалі ў захапленні ў далоні, калі даведаліся, што ў гэтай злавеснай кампаніі — сакратары ЦК КПСС і жудасныя Кручкоў і Пуга? А мы ў першым жа нумары «Нашага слова» за гэты год расказалі пра злачынствы іх падначаленых у Прыбалтыцы. Так што чытачы добра ведалі нашу пазіцыю. Пра гэта, дарэчы, сведчаць іхнія адказы на анкету «Н. с.».

Напомню, калі рыхтавалася паведамленне, якое Вы, спадар, цяпер пляжыце, быў першы дзень перавароту. 19 жніўня, панядзелак. Па радыё і тэлевізары гучалі толькі загады ГКЧП і музыка з «Лебядзінага возера». Беларускае тэлеграфнае агенцтва распаўсюджвала тыя ж тэксты, адно без аркестра. Кожнаму ў рэдакцыі было зразумела: калі хунта пераможа, нас у спакоі не пакінуць. Абмяркоўваем польскую «чрэзвычайшчыну» часоў Ярузельскага і прыходзім да думкі: у нас будзе ўсё значна пагаданей, страшней, бо ў беларусаў няма свайго генерала Ярузельскага і не вызначыўся Валенса. Што і казаць, пачувалі сябе ніякавата. Дарэчы, трохі раней адзін з вядучых супрацоўнікаў, рэдакцыі, ці не прадчуваючы гэткую сітуацыю, вельмі ж хуценька перабраўся на працу ў больш спакойнае месца. А ў той дзень яшчэ сюрпрыз: праз знаёмых карэктар перадае — тэрмінова звальняецца па «сямейных абставінах» і на працу ўжо не выйдзе. Месца карэктара займае літаратурны супрацоўнік. З чатырох журналістаў, уключаючы сюды рэдактара і адказнага сакратара, застаецца такім чынам, толькі трое.

На другі дзень у 8.30 раніцы пачынаецца вёрстка нумара. На гэта друкарня адмервае лічаныя гадзіны, ставіць можна толькі загадзя набраныя і вычытаныя матэрыялы, інакш не паспець. 9 гадзін раніцы... Апошні тэрмін, калі і раней можна было хоць і з гвалтам, але даслаць у нумар дзесятак свежых радкоў. Акрамя афіцыёзу, іншай інфармацыі пра падзеі па-ранейшаму — нуль. Адны чуткі. У тым ліку пра спыненне выпуску газеты «Знамя юности», дзе нешта было пра Ельцына, дырэктарам друкарні ЦК КПБ — КПСС. Паставіць на першую паласу лозунг— «Далоў хунту!»? Каб нумар адразу арыштавалі? Яшчэ ніхто не ведаў, колькі часу будзе доўжыцца навала, і няхай бы ўсё ж артыкул «прыстасаванца» Уладзіміра Дамашэвіча беларусы паспелі дачытаць. А дзеля чаго ён там, на Вашу думку, спадар. «Расіі не згадзіцца» — клопат іншага парадку. Вось калі было асабліва выразна бачна: каб мець магчымасць данесці да чытача сваё, незалежнае слова нават у экстрэмальных умовах, газеце патрэбна адпаведная друкарская база.

Дарэчы, пра адносіны чытачоў да «Нашага слова». Прывяду радкі з адказу на анкету, якая прыйшла ў рэдакцыю ўсяго за некалькі дзён да путчу: «Я пішу ліст як адказ на вашу анкету, бо збіраю «Наша слова». Думаю, як прыйдуць зноў бальшавікі, то перачытаю хоць для сябе. Узрост — 42 гады. Адукацыя — сярэдняя спецыяльная. Прафесія — рабочы, слесар, г. Маладзечна...» А ніжэй — поўны хатні адрас і прозвішча (хоць мы і прапаноўвалі: прозвішча ўказваць не абавязкова, пераважная большасць рэспандэнтаў яго ўказала) — Валянцін Сысун. Ён называе сябе, хоць прадчувае — бальшавікі рыхтуюць ваенны пераварот! Гэта вісела ў паветры, як гаворыцца. Папярэджвалі пра тое і мы — чытачы адразу заўважылі нашы «Беларускія задачкі часоў галоснасці».

Тады ж, 20-га, адны з нас — на мітынгах, іншыя дзяжураць у рэдакцыі. Тэлефануюць з раённых суполак ТБМ. З Баранавіч, Магілёва, Слуцка... Дзелімся інфармацыяй, якая пачынае паступаць з мітынгаў, ад гарадскога страйкома. Дамаўляемся, як дзейнічаць, калі надзвычайнае становішча захлісне і Беларусь. Увесь час заходзяць усхваляваныя людзі — пажылыя, моладзь. Цікава, можа, і Вы ў нас былі, спадар, ды не назваліся? Але чаму ліст рэдактару тады на стол не паклалі. Ну, хоць бы і з гэтымі словамі: «Далоў хунту!»? Ці толькі зараз схамянуліся: а маглі! Можа, маглі і лепей за Уладзіміра Дамашэвіча выступіць — мо, смялей ці больш вобразна... Гадоў з дзесяць таму, калі голас Дамашэвіча ўпершыню прагучаў. Адчуваецца ж — чалавек Вы ў гадах, пяро маеце спрактыкаванае. Ведаеце, стыль Вас выдае: у сучаснай журналісцкай моладзі, асабліва якая гуртуецца вакол той жа «Свабоды»,— іншы. І наогул клопат у гэтых хлопцаў зараз таксама іншы.

Кажаце, за ўсіх усё ўжо зрабіла Расія? Не сумуйце. Мяркую, у Вас яшчэ з'явіцца не адна магчымасць вызначыцца. Спецыялісты лічаць, што ў бліжэйшы год адных спроб новага дзяржаўнага перавароту можа быць па меншай меры тры. Дарэчы, нікуды пакуль не падзеўся з Брэста генерал Усхопчык, якога напярэдадні путчу туды перакінулі з Вільні. Цяпер пайшлі чуткі — рыжскіх амонаўцаў нехта перацягвае на Беларусь. Ды і без таго ў нас хапае тых, хто прагне рэваншу.

Толькі кіньце Вы ўсё ж гэны жанр абвінаваўчых лістоў. Уявіце: некалі непазбежна прыйдзе час, калі моцна ўсталюецца дэмакратыя. І тады абнародуюць архівы ўстаноў, куды падобныя творы аматары гэнага жанру асабліва любілі пасылаць. Уявіце: робіцца выстава такіх твораў, яе наведвае нейчы ўнук і, усхваляваны адкрыццём, з малечай непасрэднасцю выгукае: «Дзеду, а вось ці не твой почырк?»

І наогул — зласлівасць, гэтая спадарожніца татальнага бальшавіцкага выкрывальніцтва «ворагаў пралетараў», як і страх,— рэч надзвычай самаразбуральная як для асобы, так і для грамадства.

Эрнэст ЯЛУГІН.

*З рэдакцыйнай пошты*

## Ці вернецца інтэлектуальнае багацце?..

Прызнацца, дваякае пачуццё авалодала мною, калі прачытаў у 21-м нумары «Нашага слова» ліст з далёкай Аўстраліі. Добра, што аўстралійскія беларусы «...пастанавілі выслаць просьбу да міністра эміграцыі аб дазволе на ўезд нашых суродзічаў з гуманітарнай адукацыяй. Управа і сябры клуба гарантавалі жыллё на першыя месяцы пасялення». Добра і тое, што беларусы з Аўстраліі чакаюць сустрэчы з суродзічамі, якія маюць гуманітарную адукацыю... Але ж ці пойдзе гэта на карысць Беларусі, з якой выедуць навукоўцы, пісьменнікі, мастакі, музыканты?!

Некалі ў 20-я гады Беларусь збірала пад свае крылы вучоных, людзей адукаваных, клапатліва гукала дадому ўсіх сваіх сыноў. А потым... Нават пасля сталіншчыны... Дык хіба ж трэба шкадаваць грошы, кватэры. А чаму б не прыняць меры аб упарадкаванні жыллёвай плошчы ў адстаўных і «дзеючых» генералаў — як вайсковых, так і генералаў ад улады. Вось і знойдуцца кватэры! Хіба мала мы ўжо страцілі, не дапусціўшы на Беларусь Міхася Забэйду-Суміцкага, М. Улашчыка ды шмат яшчэ каго. Дарэчы, не толькі з-за меж Савецкага Саюза. А сёння, напрыклад, у Ленінградзе працуе гісторык Валянцін Грыцкевіч. У Якуцку піша па-беларуску Іван Ласкоў. У Маскве — Алесь Адамовіч... Розныя постаці. Розныя абставіны кожнага з іх вымусілі пакінуць родную старонку. Але сваю вернасць Беларусі яны даказалі справамі. І хіба цяпер не патрэбны людзі тут — дома, на Беларусі?!

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*У суполках ТБМ*

## «ВЫБРАНЕЦКІЯ ШЫХТЫ»

### ХРОНІКА

Арганізацыя моладзі «Выбранецкія шыхты» ўтворана 28 студзеня 1991 года. У яе Статуце запісана: «З'яўляецца добраахвотным спартовым гісторыка-патрыятычным аб'яднаннем асоб, якія ставяць сваёй мэтаю выхаванне нацыянальнае свядомасці беларусаў, грамадзянскае адказнасці за захаванне культурнай і гістарычнай спадчыны беларускага народа, спрыяць захаванню нацыянальнага, культурнага і прыроднага патэнцыялу Беларусі». За кароткі тэрмін свайго існавання «выбранцы» зрабілі нямала. Вось кароткі пералік галоўных спраў.

*Красавік.* Пасадка ста пяцідзесяці дрэў у Мінску. Сумесна з Беларускім культурным таварыствам «Каралявец» (гістарычная беларуская назва Калінінграда) арганізацыя праводзіць экспедыцыю па раёнах Усходняй Прусіі (Калінінградская вобласць), дзе кампактна жывуць перасяленцы з Беларусі (Праўдзінск, Дружба, Новабабруйск, Мазыр Новы). Мэта экспедыцыі — вывучэнне стану беларускай мовы, дослед гістарычнай памяці нашых суайчыннікаў.

*Май-чэрвень.* Наведванне Смаленшчыны. Мэта экспедыцыі: збор матэрыялу пра Веліжскае паўстанне 1919 года, партызанскі рух ў дваццатых гадах, даследаванне фальклору і моўнага дыялекталагічнага матэрыялу, пошук вучняў былых беларускіх школ на Смаленшчыне.

*Ліпень.* Сумесна з Беларускім навукова-гуманітарным таварыствам арганізавана вандроўка па паўднёвай Віцебшчыне да былых святых месцаў нашых продкаў — вытокаў рэчак Віліі і Бярэзіны. Адшуканы культавыя камяні, гарадзішчы і капліцы, запісаны легенды, паданні, загадкі, песні.

«Выбранецкія шыхты» бралі ўдзел у перазахаванні праху Івана Луцкевіча ў Вільні, святкаванні перамогі пад Дуброўнаю (Грунвальдам), у жальбінах па ахвярах бальшавіцкага тэрору ў 1930—1941 гадах у Ігумене (сучасны Чэрвень).

Каб скантактавацца з «выбранцамі», можна дасылаць лісты на адрас: 220131, Мінск, п/с 19.

*Беларускае замежжа*

*Вітаўт КІПЕЛЬ*

## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ Ў ЗША

*Высокапаважаная спадарыня Баршчэўская!*

*Я Вам шчыра ўдзячны за вельмі добра падрыхтаваны стэнаграфічны запіс мае гутаркі (даўгое!) на Кангрэсе (Першы Міжнародны кангрэс беларусістаў, які адбыўся ў Менску 25—27 мая 1991 г. — рэд.). Ідучы ўслед за Вашымі пажаданнямі, я пераглядзеў дасланы мне тэкст ды дадаў (ці змяніў), што, на мой погляд, уважаў найбольш патрэбным. Уважаю таксама, што добрая думка друкаваць матэрыялы аб эміграцыі ў Вашай газеце: чытачы гэтым цікавяцца.*

*З глыбокай да Вас пашанай Вітаўт КІПЕЛЬ.*

Пра Беларусь Амерыка даведалася ў 1607 г. Прынёс вестку пра яе ніхто іншы, як сам капітан Джон Сміт, першы губернатар сталай ангельскай калоніі ў Амерыцы — Вірджынскай калоніі. Усяго толькі 4 гады перад 1607 годам капітан Сміт быў на Беларусі. Гэта вядома з ягонай кніжкі, якую ён выдаў у Лондане ў 1630 годзе. Кніжка называецца «Сапраўдныя падарожжы». У кнізе ён піша: «Нарэшце я дабраўся да Літвы, да горада Рэчыцы на рацэ Днепр».

У беларускім замежным друку пра капітана Сміта напісана шмат. Гэтаксама нямала напісана пра Рэчыцу, пра жыццё капітана Сміта ў Рэчыцы, ды пра падарожжа капітана Сміта з Рэчыцы праз Палессе на Валынь і далей на Захад.

Колькі слоў яшчэ пра капітана Сміта. Ён быў ангельскі ваяка, які ваяваў з туркамі, трапіў у палон, уцякаў адтуль праз Азоўскае мора, Данец, Дон, затым прыйшоў на Беларусь. На Беларусі пабываў у Рэчыцы. Ягоны побыт дэталёва апісаны, гэтаксама як і знаёмствы са шляхтай беларускай. Праз Еўропу Сміт вярнуўся ў Англію і затым стаў першым губернатарам амерыканскай калоніі.

Калі капітан Сміт прыехаў у Амерыку і пачаў там арганізоўваць жыццё, яму спатрэбіліся спецыялісты па вырабу смалы і шкла. У сваіх успамінах Сміт пісаў, што набраў ён гэтых спецыялістаў у Польшчы ды іншых усходніх землях. Аналізуючы прозвішчы тых людзей, якіх Сміт прывёз у Вірджынію як спецыялістаў па вырабу смалы, можна сцвярджаць, што сярод гэтых людзей маглі быць беларусы. Гэткім парадкам няма сумненняў, што першыя сувязі з Амерыкай і веданне Беларусі праз Амерыку пачалося ўжо ў XIX стагоддзі.

Будучыя архіўныя пошукі, асабліва на Беларусі, безумоўна, дадуць значна больш дакументальных дадзеных. Тым больш, што аналізы, якія мы рабілі ў Лондане ў розных ангельскіх кампаніях, абнадзейваюць: былі беспасрэдныя лучнасці з ліцвінамі-беларусамі (тут я ўжываю слова «ліцвін» як сынонім беларуса, бо ліцвінамі зваліся эмігранты з Магілёўшчыны, Віцебшчыны, Меншчыны і г. д.).

Пастаянна, невялікімі групамі пачалі прыязджаць у Амерыку беларусы (ліцвіны) у XVIII—XIX стагоддзях. Гэта былі людзі, якія не пamірыліся з тым, што нашы землі пападалі пад расейскую маскоўскую акупацыю. Значна больш стала прыязджаць беларусаў у першай чвэрці XIX стагоддзя. Пачалася першая «масавая» (па 20—30 чалавек) хваля эміграцыі. Гэта былі ў асноўным каталіцкія ксяндзы з Полаччыны і былыя вайсковыя людзі ды збяднелая беларуская шляхта. Як ведама, калі ў канцы XVIII стагоддзя папа рымскі забараніў езуіцкі ордэн, ён працягваў існаваць далей у Беларусі. Расія не згадзілася з папскім указам. На яе тэрыторыі толькі цары былі гаспадарамі, дык езуіцкі ордэн, нягледзячы на забарону папы, легальна існаваў. Амерыканскія езуіты, не жадаючы аддаць сваю маёмасць каталіцкай царкве, далучыліся да езуіцкага ордэна, які існаваў на Беларусі, і назваліся Беларускай правінцыяй. Гэткім парадкам у пачатку XIX стагоддзя ў Амерыцы ўтварылася Беларуская правінцыя езуіцкага ордэна. Адзін з новапрыбылых ксяндзоў асабліва быў выдатны. Гэта — Францішак Дзеружынскі. Ён нарадзіўся ў Оршы, а затым выкладаў у школах Аршаншчыны, Магілёўшчыны. Пасля, напачатку 1820-х гадоў, вырашыў выехаць у Амерыку. Дарэчы, Ф. Дзеружынскі мог быць знаёмы з Янам Баршчэўскім, бо былі яны ў Полацкай Акадэміі ў тым самым часе.

У Амерыцы Дзеружынскі вызначыўся надзвычайна. Ён — адзін з тых, хто паклаў пачатак адукацыйнай сістэме каталіцкай царквы у ЗША. Многія даследчыкі ўважаюць Дзеружынскага палякам, бо здаўна існуе ні на чым не абаснаваная думка, што як каталік — значыць, паляк. Але, грунтуючыся на езуіцкіх архівах у Амерыцы, можна сказаць, што айцец Францішак Дзеружынскі — беларус па паходжанню.

У сярэдзіне XIX стагоддзя ў ЗША пачалі ўзнікаць суполкі, якія амерыканцы называюць сельскагаспадарчымі калоніямі. Гэта як бы прадвеснікі калгасаў. Арганізатары гэтых калоній — пераважна выхадцы з былой Расейскай імперыі — мелі цесныя сувязі з Беларуссю ды са спецыялістамі з Горы-Горацкай сельскагаспадарчай Акадэміі.

Тады ж прыехаў у ЗША таксама доктар Мікалай Судзілоўскі, наш зямляк з Магілёўшчыны, вядомы ў Заходняй Еўропе і Амерыцы пад псеўданімам доктар Ніколас Расэль. Пра Судзілоўскага напісана шмат папулярных артыкулаў ды вялікая праца, выдадзеная БДУ у 1976 годзе.

*(Працяг будзе).*

---

Д-р Вітаўт Кіпель (нарадзіўся ў 1927 г. у Мінску) — вядомы дзеяч беларускай эміграцыі ў Паўночнай Амерыцы, з 1982 г. дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (Нью-Йорк). Аўтар прац па гісторыі беларускай эміграцыі. У маі 1991 года браў удзел у рабоце Першага Міжнароднага канкрэса беларусістаў у Менску.

Артыкул, які публікуецца вышэй, апрацаваны В. Кіпелем паводле яго даклада на названым канкрэсе.

*У свеце слоў*

## *ВАФЛЯ, МАРОЖАНАЕ, МАЯНЭЗ, ЯЙЦО*

**Слова «вафля» запазычана з нямецкага «ваб/», якое на мове пчалаводаў азначае ячэйку ў пчаліных сотах. Ужо ў 1780 г. у адным са слоўнікаў ёсць слова «вафля». Адрозніваюцца вафлі ад іншага сухога пячэння ўзорам у клетачку на паверхні, які нагадвае соты. Гэтым і тлумачыцца іх назва.**

**Яшчэ Гіпакрат рэкамендаваў сваім пацыентам марожанае. Ён лічыў, што «замарожаны крэм» актывізуе вадкаснае асяроддзе арганізма і паляпшае самаадчуванне. Вялікім аматарам марожанага быў Аляксандар Македонскі. Жыхары Рыма рабілі спецыяльныя калодзежы, дзе захоўвалі лёд, каб рыхтаваць гэты ласунак. У XIII стагоддзі Марка Пола прывёз у Венецыю сакрэт вытворчасці штучнага лёду, які раскрылі яму кітайцы-кулінары. У 1960 г. фларэнтыец Пракоп Культэлі адкрыў першае кафэ-марожанае за межамі Італіі — у Парыжы, якое і сёння дзейнічае на тым жа самым месцы.**

**У 1756 г. на востраў Менорку (Міжземнае мора) прыехаў адзін з французскіх вяльможаў. На званым абедзе ў порце Маон быў паданы новы соус. Яго назвалі маянэзам, г. зн. маонскім.**

**Яйцо — слова агульнаславянскае па паходжанні, але ў працэсе развіцця славянскіх моў яно атрымала match рознае фанетыка-марфалагічнае аблічча. Яшчэ ў помніках старажытнаславянскай мовы — гэта «яице». Пазней у беларускай і рускай мовах у выніку фанетычнага змянення гука «е» у «о» атрымалася «яйцо». Што датычыць другой формы назвы — «яйка», дык гэта звычайнае польскае слова, яно пашырана толькі ў заходніх беларускіх гаворках.**

**Іван ШПАДАРУК,**
**дацэнт Інстытута замежных моў, г. Мінск.**



Не скора, відаць, памесце М. К. Агінскага ў маляўнічай ваколіцы вёскі Залессе Смаргонскага раёна стане месцам паломніцтва турыстаў. Рэканструкцыя дома, у якім у пачатку мінулага веку жыў наш вялікі зямляк, вядомы кампазітар і палітычны дзеяч Міхал Клеафас Агінскі, працягваецца ўжо 9 гадоў і пагражае расцягнуцца на неакрэслены тэрмін.

На здымку: вось у такім стане зараз дом-памесце М. К. Агінскага ў вёсцы Залессе Смаргонскага раёна.

**Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА, Аляксандра ТАЛОЧКІ (БЕЛТА).**

# Лякарня чараўніцы Потахі

**ДЫМНІЦА ЛЕКАВАЯ. У народзе лічаць, што дымніца ўзмацняе апетыт, умацоўвае страўнік, злёгку паслабляе кішэчнік і ўмацоўвае сэрца. Ужываецца ў выглядзе толькі што адціснутага з расліны соку разам з півам ці сыроваткай: 20—25 г соку на шклянку; прымаюць 2—3 чаркі за дзень.**

**У зімні час сушаную руту ўжываюць пры катарах страўніка з паніжанай кіслотнасцю: з півам ці сыроваткай — 10 г на паўлітра піва, кіпяцяць 7—10 мінут. За дзень выпіваюць усю порцыю.**

**Пры катарах страўніка з паніжанай сакрэцыяй хворыя вылечваліся, ужываючы наступную сумесь: цвінтарэю — 2 г, святаянніку — 2 г, гарычкі — 2 г, крываўніку — 2 г, дзікай цыкорыі — 3 г, дымніцы — 4 г. Сумесь заліваюць 1 л сырой вады, намочваюць на цэлую ноч і раніцай кіпяцяць 5—7 мінут; яна крыху настойваецца, яе адцэджваюць і выпіваюць усё за дзень за 5 разоў: нашча — 1 шклянка і на працягу дня — 4 разы па паўшклянкі.**

**СУШАНІЦА БАГНАВАЯ. Траву сушаніцы прымяняюць пры болях жывата з уздуццем і пякоткай. Некаторыя змешваюць яе пароўну з святаяннікам і цвінтарэем. Чай з адной сушаніцы п'юць пры частым адчувальным сэрцабіцці і пры «замарочванні галавы».**

### *ПРЫСЯГАННІ*

***Каб мне вочы лопнулі.***
**(Шэйн, Багдановіч).**
***Каб мне рукі адсохлі.***
**(Шэйн, Багдановіч).**
***Каб мне язык стаў калом, коль гэта няпраўда!***
**(Шэйн, Багдановіч, Карскі).**

У асабістай практыцы, акрамя таго, я ўжываў сушаніцу ў выглядзе чаю пры лячэнні ўпартых гастрытаў і для прытуплення нервовай узбуджанасці ў асоб, якія пакутуюць ад бяссонніцы ці адчуваюць неакрэсленую боязь.

БЯССМЕРТНІК (ЦМЕН) ПЯСЧАНЫ. Народная медыцына шырока прымяняе гэту расліну пры ўсялякіх хваробах, а для жаўцягонных мэт у навакольнай прыродзе не знаходзяць лепшага сродку, чым суквецце цмену. У народзе афарбоўку кветак гэтай расліны звязваюць з колерам твару чалавека, які хварэе жаўтухай.

Напарам з цмену я лячыў хворых жаўтухай. У некаторых пасля прыёму такога чаю жаўтуха праходзіла за пяць дзён.

Валодаючы лекавым пігментам і спецыфічнай горыччу, кветкі цмену ў напары 40 г на 1 л кіпетню, акрамя таго, што лечаць жоўцевыя шляхі, жыватворна ўплываюць на саму печань, асабліва пры цырозе з калаццём. Гэты напар у тых жа дозах і прыёмах прымяняюць, па-першае, пры захворванні страўнікава-кішэчнага тракту, а затым і мочапалавых органаў, уключаючы і мачавы пузыр, як мачагонны сродак, які не раздражняе нырак.

*І смех і грэх*

*Любоў ЛАМЕКА*

# КУЛЬМІНАЦЫЯ ПРАФАНАЦЫІ

*(Маналог сучаснай паэткі)*

Ці мала клопатаў і перажыванняў, дык яшчэ і крытыкі-няздары сляпіцаю ў вочы лезуць. Так і шастаюць па вершах, так і шастаюць! Як быццам па сваіх градах. Аж млосна робіцца, калі з цябе цытаты скубуць і мосцяць імі дарогу да тваёй няславы.

Узяць хоць бы гэнага ўедлівага пачаткоўца-крытыка, які «падае надзеі». Каму толькі, невядома. Несапраўдным, бачыце, палічыў каханне ў маёй новай кнізе. Ды што ён разумее ў сучасным каханні! Моднымі сентэнцыямі сыпаць можна. Але ці ён зведаў вечнае пачуццё сам ва ўмовах татальнага дэфіцыту?.. Пра векавечную традыцыю загаварыў. Узровень думкі і пачуцця. Сафо ажно ўспомніў, вытанчанасць яе пачуццяў...

Добра было тварыць старажытнай грэчаскай паэтэсе, бо ці тыя ўмовы жыцця яна мела?! Напішы, паспрабуй, светлую сімфонію пачуццяў і адчуванняў, калі быт у сваё балота засмактаў. Папракае «аналітык», што мая лірычная гераіня — прыгажуня нейкая прыземленая. І пачуцці яе таксама прыземленыя. Не як у Сафо! Я і сама ведаю цану сваёй лірычнай гераіні. Помню і прыгажуню эалійскай паэтэсы — пясняркі высокага кахання. Усю ў любоўных мáрах, паланёную таямнічым шэптам вечароў, шчабятаннем ластавак (дзе яны, ластаўкі?), зманлівай песняй ручая ў садзе німфаў. Яшчэ б не помніць гэтую меланхалічку. Перад ёй самі зоркі згасалі вокамгненна!

Прызнаюся шчыра: мая ёй не раўня. Але няхай бы сам паспрабаваў крытык-зануда разгледзець сучасніцу-прыгажуню пад таннай касметыкай саматужнага кааператыва «Фарбы зямлі». Адно і ўбачыў бы — зямлісты колер твару. Вядома, калі не паскудзілася дзяўчына за 1000-рублёвую французскую касметыку, якую спрытнюгі-афрыканцы ў якасці прынады з-за мяжы прывозяць. Але тады «ранішняя зорка» іншае, чым прыгажуня Сафо, выпраменьваць святло будзе...

А што ён хоча, наваяўлены Бялінскі, ад вобразу ветру? Не падабаецца яму: вецер, маўляў, у маіх вершах толькі тое і робіць, што веснічкі то адчыняе, то зачыняе. А ў Сафо, бачыце, вецер, які раскачвае дубы на горах, — гэта магутная страсць. Дык у яе ўся прырода прасякнута эратычнымі настроямі!

Я ж гэтую прыроду толькі па выхадных бачу, і то цераз вокны электрычкі, якая мяне на дачу імчыць. Там жа не да прыроды! Як ускочу ў грады — сэрца слязьмі абліваецца. Гурочкі зжаўцелі, плоду не даўшы. Ведама, дажджу каторы дзень няма. На памідоры вусень-пладажэрка напаў. Зялёныя, поскудзь, трушчыць! Затое агрэст дык наадварот — ні пладажэрцы, ні табе! Такім шчыльным карычневым панцырам ад нашай экалогіі пакрыўся — небяспечна ў рот браць! Вось і думай тут сімваламі!

Сафо, яна багіні кахання і прыгажосці Афрадыце малілася. А мне прыходзіцца багіні земляробства Дэметры маліцца. Бо, крый Божа, не збяру нічога з дачнага ўчастка, чым сям'ю карміць буду? Пяць ратоў! У магазіне ні цыбулькі, ні гурочка, ні морквачкі. Ні хрэну гэтага! Усё з'ела новае мысленне і нерэалізаваная хваленая праграма «500 дзён»!..

А на ганарары разліку няма. Тых ганарараў — кот наплакаў. Мо якую кілю цыбулі толькі і купіш на Камароўцы. Бо сённяшняя Камароўка — больш, чым фунт ліха: усю да нітачкі абярэ. Дзіва што! Не ўехала, а галопам ускочыла ў вольны рынак. Падумаць толькі! У самы сезон агуркі — 5—8 рублёў. І не падаюць у цане. То ж культура мясцовая, на нашых землях расце. А пра такія далікатныя рэчы, як лімоны, бананы, арэшкі і мёд — лепш не ўспамінаць: іх смак у застойным мінулым растварыўся...

Можна, вядома, паднатужыцца ды начамі папасядзець, больш напісаць тых вершаў, за якія грошы плацяць. Я згодна: раніцу за сталом бы сустракала. Але вось бяда: не пішуцца вершы. Ну не ідуць і ўсё тут! Параліч думкі! Формы таксама. Гэта Сафо пісала гімны, эпіталаміі, элегіі, песні, оды. А я нават эпіграму добрую не магу напісаць, хоць сённяшняя рэальнасць сама на паперу просіцца. Абяссілела зусім, выдыхнулася! Ад адной толькі рыфмы, якая назойліва лезе ў галаву, можна з глузду з'ехаць. Хоць плач, хоць скачы, хоць крычы, хоць маўчы, а кампенсацыя рыфмуецца толькі з датацыяй, а тая, у сваю чаргу, толькі з індэксацыяй. Яно б можа і нічога, каб менавіта гэты лагічны рад працягваўся: усё ж, як ні ёсць, на карысць сям'і ідзе.

Але варта Цэнтру ўзбіцца на чарговы віток новага мыслення, як усё пачынаецца спачатку: пертурбацыя, палярызацыя, дэманстрацыя, маніфестацыя, канфрантацыя, інфляцыя. І як вынік — стагнацыя. У тым сэнсе, што стогне народ, як некалі бурлакі на Волзе, цягнучы на сабе раскошную баржу...

А тут і мужык даймае. «Царскага шніцалю» яму захацелася. Успомніў небарака, што дужа смачны ён у мяне атрымліваўся ў застойныя часы. Як усё роўна не ведае, што ў магазінах прадаюць. Не толькі ««царскага шніцалю», але і мяса «па-манастырску» больш не паспрабуе паводлуг сваёй зарплаты! Сёння як правяла пашпартызацыю таго, што ў халадзільніку, вока толькі і затрымалася на прарваных бурачках. І тыя паапусцілі лісточкі, бо ўгледзелі: змарнуюцца нізашто ў каструлі. Які ж боршч без ладнага сакавітага кавалачка мяса? А тым у халадзільніку даўно не пахне...

Ды яшчэ, як на бяду, тэлефанізацыю ўсяго дома зрабілі. Паралельныя апараты падключылі ў кожную кватэру. Цяпер не дазваніцца. Да ночы тэлефоны трашчаць — увесь пар абурэння народ у тэлефонныя жылы ўдыхнуў. Толькі адзін званок і прарваўся к вечару.

— Грошы ёсць? — голас сяброўкі нічога добрага не абяцаў. У памяці — нядаўняя грашовая аперацыя-канфіскацыя, як дурны сон. Бо і па сёння не знайшла тых некалькіх 50-ці рублёвак, прыхаваных на чорны дзень. Няйначай, вершы антычных паэтаў чытаюць ці сучасную «вясковую прозу» ў кніжнай шафе. А мо яны ў траўніку ляжалі, які ў мяне ўзялі пачытаць ды, як водзіцца, не вярнулі — згубілі? Як бы там ні было — на сэрцы не лягчэй.

— Няма!— спалохана адказваю. А самой так сорамна стала. Не, каб паспачуваць чалавеку: пазычыць. Але сяброўка мае патаемныя думкі прачытала, нездарма на курсы экстрасенсаў ходзіць. Ушчуваць пачала: «Не бойся, не пазычáць. Купляць жа няма чаго ў магазінах! Ты вось што! Калі ёсць соценкі, бяжы хутчэй здаваць у ашчадную касу ці высылай маці. Сёння ноччу, надзейныя людзі казалі, абмен грошай будзе. Ці Указ на раніцу выйдзе, па якім усе соценкі-гарбачоўкі ў аблігацыі ператорацца. На энную колькасць гадоў..»

Заныла сэрца, не вытрымлівае перагрузак: няўжо праўда? Мне ж усе адпускныя адлалі соценкамі! Але ўнутраны голас падказаў: не вер, містыфікацыя! Сёння не зробяць, пабаяцца. Усё ж Буш у Маскве. Як бы не з рукі — народ на плошчы выкінуць.

А заўтра, дай Бог дажыць, хоць на што пушчу адпускныя! Вунь турэцкія світэры па 560 рэ ў магазінах з'явіліся. Куплю адзін у сям'ю — і ўсе грошы! На малако дзецям толькі застанецца... Куплю! Адхварэю!!! Хуткая адаптацыя да новых цэн — толькі на карысць здароўю пойдзе: прэч хваляванні! Скачок з пустымі рукамі ў пустату — гэта канец і гэта пачатак, як сведчыць мудрая руна...

Але што за магічны сэнс у нязносных словах-пачварах з канчаткам «-цыя», якія хутка даканаюць мяне?! Кааперацыя, спекуляцыя, прыватызацыя, дэградацыя, мадэрнізацыя, інтэграцыя... Разумныя людзі кажуць: «Зри в корень!» А тут (праз каторы час!) трэба ў канчатак. Як перад канцом свету!

Думала, меркавала і «датунькала» нарэшце, як піша адна пісьменніца. Канчатак, аказваецца, у дадзеным выпадку — усяго толькі код, які на корань указвае. А корань — Цэнтр! Не здзіўляйцеся, калі ласка,— метафара. Той самы злашчасны Цэнтр! І ЦЫЯ, калі з другога боку глянуць, зусім не канчатак, але абрэвіятура, якая проста расшыфроўваецца. Цэнтральная ыпапея (свядома раблю памылку!). Я-адмаўлення (сінонімы: Я-знішчэння, Я-разбурэння). Гэта значыць, што Цэнтр, які ўвёў у актыўны ўжытак небяспечныя для майго псіхічнага і фізічнага здароўя словы на «цыя», даўно закрэсліў Я-МЯНЕ як суб'екта гісторыі. І што ўздумаецца, тое і робіць!

Сёння якраз — пік «творчасці» Цэнтра: кульмінацыя прафанацыі. Адно цешыць: пасля яе, па логіцы, павінна наступіць развязка — адмаўленне Я-СІСТЭМЫ, якая надзеі і лёс простага Я-ЧАЛАВЕКА ўшчэнт разбівае. Зло зжывае сябе, як вучыць мудры філосаф М. А. Бярдзяеў, на «іманентных шляхах», гэта значыць непазбежна прыходзіць да самаадмаўлення. Як хочацца верыць!..

А няздара-крытык мяне Сафо папракае! Калі ў тым жа духу будзе працягвацца гуманізацыя нашай абноўленай федэрацыі, хутка яшчэ адна рэдкая папуляцыя — папуляцыя паэтаў — знікне бясследна. *Sub* specie aeternitatis — лац. (суб спэцiэ этэрнітаціс) — пад знакам вечнасці!

А мо пад знакам бяды? Калі не адчуць край бездані — бяда немінуча прыйдзе! Сігналізацыя даўно ўключылася!..



**Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Заказ 2459. Індэкс 74975.
**Наклад 5.064. паасобнікі.**